

# Ахова птушак Бацькаўшчыны



www.ptushki.org

ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ | № 2 (59) – 2016



ЗАХАВАЛЬНІКІ ТВП

# У чыіх руках прырода Беларусі?




Захоўваць і ратаваць прыроду: хто за гэта адказны? Адказ можна шукаць колькі заўгодна. Але насамрэч клапаціцца пра прыроду без дапамогі неабыякавых людзей немагчыма. Яскравы прыклад эфектыўнай аховы прыроды – праца захавальнікаў тэрыторый, важных для птушак (ТВП). За час працы гэтай праграмы АПБ вакол куткоў некранутай прыроды, якія сталі паратункам тысячам птушак, склаліся каманды нашых памочнікаў. Людзі наведваюць тэрыторыі, паведамляюць пра пагрозы, праводзяць маніторынг птушак, будуюць штучныя гнездоўі, праводзяць экскурсіі для дзяцей. Яны – нашы рукі, ногі, вочы і вушы на месцы падзей. А яшчэ – наша натхненне. Гледзячы на іх, пераконваешся: дзікая прырода краіны – у надзейных руках. Гэта людзі вялікай моцы і вялікай душы. І мы хочам сказаць ім "дзякуй" ад свайго імя і ад імя птушак, якія не могуць сказаць за сябе самі. Дзякуй, сябры!



**Аляксандр Іваноў, захавальнік ТВП "Выганашчанскія балоты", супрацоўнік заказніка "Выганашчанскі"**

Ладзіць адмысловыя фотаназіранні за птушкамі ў "Выганашчанскім": сотні людзей у сацыяльных сетках сочаць, як прылятаюць на загадзя падрыхтаваны "сняданак" арланы-белахвосты, крумкачы і канюхі. Гэта магчымасць бліжэй пазнаёміцца з птушкамі, якіх у сваім жыцці бачыў не кожны. Аляксандр з калегамі не толькі пабудаваў схованкі, адкуль фотатурысты могуць здымаць асцярожных птушак, але і ўсталяваў аўтаматычныя камеры, якія паведамляюць, каго і калі можна падсцерагчы на прынадзе.



**Вадзім Пракапчук, каардынатар ТВП "Рака Лясная", прадпрымальнік**

Як жартуюць сябры, "запісаў" у захавальнікі амаль усю сваю вёску. У мінулым сезоне каманда святкавала дзве перамогі. Знайшлі і пакаралі тых, хто нанёс рану – разараў бераг ракі Лясная, і выправілі памылку ў назве ракі на дарожным знаку. Таксама дзякуючы іх працы тэрыторыя вакол ракі – сапраўдны аазіс з штучных гняздоўяў для птушак ад шпака да гогаля!



**Валерый Кавалёнак, захавальнік ТВП "Балота Ельня", фатограф**

Развесіў штучныя гняздоўі для рэдкага сокала-дрымлюка і адрамантаваў мінулагоднія. Чакае "навасёлаў"-гогаляў у скрынях, якія загадзя пабудаваў са школьнікамі.

**А што ты зрабіў для захавання дарагіх сэрцу мясцін? Стань наступным звяном у ланцугу захавальнікаў і далучайся: працаваць разам і цікавей, і эфектыўней!**

**Першы крок – на www.iba.ptushki.org**

ВЯСНА З АПБ

**Вясна – росквіт прыроды і росквіт акцый АПБ! Як дазнацца болей пра міграцыю, хто такія кулікі і чаму салавей – індыкатар стану прыроды? Адказы – у нашых вясновых мерапрыемствах! Не прапусціце самае цікавае, удзельнічайце і запрашайце сяброў!**



## Сустракаем птушак з "Жывой вясной – 2016"!

**Што:** пан'еўрапейская кампанія "Жывая вясна"
**Калі:** 1 сакавіка – 31 траўня
**Дзе:** уся краіна
**Што рабіць:** шукаць птушак – вястунак вясны (белы бусел, вясковая ластаўка, зязюля, чорны свіргуль, шчурка-пчалаедка) і адзначаць, дзе і каго бачылі, на сайце **www.springalive.net.** Кожны можа дапамагчы стварыць еўрапейскую мапу прылёту птушак і ўбачыць, як птушкі прыносяць на крылах вясну!



## Час лічыць салаўёў!

**Што:** акцыя "Салаўіныя вечары з АПБ"
**Калі:** 14–15 траўня (а таксама на працягу ўсяго траўня)
**Дзе:** уся краіна
**Што рабіць:** паслухаць, дзе спяваюць салаўі, і абавязкова занесці назіранні ў "Салаўіную мапу" на сайце АПБ **www.ptushki.org.** Па магчымасці паведаміце ў мясцовую адміністрацыю, што гэты куток важны для птушак, і касіць траву да ліпеня, непакоіць птушак у сезон гнездавання – нельга!



## Вітаем "птушыны" Тураў!

**Што:** сёмы Фестываль кулікоў у Тураве
**Калі:** 23 красавіка
**Дзе:** г. Тураў, Жыткавіцкі раён, Гомельская вобласць
**Што рабіць:** з ранку да абеду – назіранні за 10 відамі кулікоў, гаспадарамі Тураўскага балоння, экскурсіі на адзіную ў Беларусі станцыю кальцавання, канцэрт, майстар-класы, гульні для дзяцей. Усё прысвечана "гаспадарам" свята, кулікам, і іх улюбёнаму месцу – рэзервату АПБ "Тураўскае балонне". Падтрымаць свята прыедуць гурты «Разбітае сэрца пацана» (РСП), «Recha», «Нагуаль». Прыязджайце: птушкі і канцэрт чакаюць!



Інфармацыйны бюлетэнь выдадзены ў рамках праекта DCI-NSAPVD / 2012/29208 "Прырода важная для ўсіх. Умацаванне аховы прыроды праз развіццё лідарства і ўдзел мясцовага насельніцтва ў працэсе прыняцця рашэнняў на мясцовым узроўні" пры фінансавай падтрымцы Еўрапейскага саюза. За змест выдання нясе адказнасць ГА "Ахова птушак Бацькаўшчыны".

# Пожалуйста

# “Весенняя охота – это когда ты в жизнь в самом ярком ее проя

**Этот разворот посвящен непростой теме, которая каждый год волнует всех, кто любит природу. С первыми вернувшимися птицами и с первыми распустившимися почками на реках и озерах появляются люди с ружьями. Еще раз о весенней охоте и о том, какова ее цена. Подарите этот вкладыш охотнику!**

**Почему на карте отмечены эти страны? В них разрешена весенняя охота: в Беларуси это 28 дней, в России – 14. Кроме этих стран, стреляют перепелов и обыкновенных горлиц на Мальте. Остальная Европа от весенней охоты отказалась.**



**Александр Винчевский, директор АПБ:**

– Весенняя охота опасна тем, что охотники плохо различают птиц и под выстрел попадают и редкие виды: гусь-пискулька, белоглазый нырок. Цена этой ошибки весной выше, чем осенью. Численность «разрешенного к охоте» серого гуся в нашей стране – всего 150-200 пар. Но все равно вид считается охотничьим.

Охота весной должна быть если не запрещена, то по максимуму ограничена: не больше 2 недель, на уток – только с подсадной уткой, на гусей – только на полях, норма – не больше 2 птиц на человека в день. Серый гусь должен вернуться в Красную книгу. В национальных парках любая охота весной должна быть запрещена.

## ОНИ НЕ ОХОТЯТСЯ ВЕСНОЙ

**Многие заядлые охотники перестают охотиться весной или совсем бросают охоту. Почему? О несчастной любви, внуках и о том, почему может быть стыдно смотреть в глаза трофею – в откровениях бывших охотников и их родственников.**

**Василий Типов, бизнесмен:**

– Стаж охоты – 30 лет. Много работаю, а таким образом отвлекаюсь. С прошлого года я отказался от весенней охоты. Причиной тому – один случай. Пошли с друзьями на гуся, ждем. Летит стая – от моего выстрела наземь падает самка. Птицы быстро улетают, остается только один гусь. Он долго кружился над мертвой самкой. Видимо, это его пара. Вот такая, получается, несчастная любовь... Я, честно скажу, не из ранимых, но мне долго было не по себе. Много чего видал на охоте, но это помню до сих пор. После этого весной не охочусь. И вообще замечаю, что с возрастом все больше начинаешь жалеть животных. Того и гляди, когда-нибудь и вовсе повешу ружье на гвоздь.

**Анастасия Гришанова, копирайтер:**

– Мой папа был заядлым охотником в течение 20-ти лет: кабаны, косули, утки. Для него это было, скорее, «мужским» развлечением: спорт, азарт. Выехать в лес с друзьями, съездить в заказники, пообщаться с егерями, выпить после охоты – вся эта атрибутика казалась романтичной и пленительной. Мы с мамой его «пилили»: мол, «любитель природы», коим папа себя всегда считал, просто не может быть охотником. Мы просили не приносить в дом трофеи. Я не стесняясь называла его убийцей, а не охотником...

Однажды зимой папа вернулся с охоты какой-то озадаченный и даже печальный. «Ну что, убил?», – спросили мы с мамой. Папа снял ружье, присел к камину: «Нет, вы знаете – мне стало страшно и стыдно смотреть им в глаза». Мы с мамой очень хорошо помним эту фразу. С тех пор папа охотиться перестал. Некоторое время еще хранил у себя ружье, а потом продал и его. Почему перестал? «Личностная эволюция», как говорит сам папа. «Я просто стал думать об этом. Размышлять. Раньше это всё было как-то бездумно, бездушно, спорт себе и спорт. Вот и пришел к выводу, что бессмысленное убийство ради собственного развлечения – это признак отсталого деграданта, а не человека. Во мне стало больше любви, понимания и ума, что ли». Сейчас он и на рыбалке чаще всего отпускает рыбу сразу после вылова. Возможно, вскоре и рыбалка исчезнет из привычки, кто знает.

**Анатолий Короткин, предприниматель:**

По молодости бывал и на охоте, и на рыбалке. А теперь понял: самое лучшее – это наблюдать. Теперь вместо ружей – бинокль и фотоаппарат. А свободное время на природе можно намного интереснее провести и без ружья: я подкармливаю птиц, строю для них домики, замахнулся поставить платформу для аистов. И внуки всегда рядом, помогают! Вместе наблюдаем и наперегонки считаем птиц. Бывает, слышу в лесу выстрел, и аж не по себе. Если бы вернуть время назад, то не стрелял бы...

**Вы тоже смогли отговорить человека от весенней охоты? Или знаете историю охотника, который перестал стрелять? Расскажите нам об этом! Пусть такие примеры вдохновляют других людей положить ружья! Ждем ваших «неохотничьих» историй по адресу info@ptushki.org или 220114, Минск, ул. Парниковая, д.11, пом.4.**

**По закону, сезон охоты на водоплавающих птиц открывается со второй субботы марта по второе воскресенье мая в светлое время суток, кроме периода с 11 до 18 часов. Общая продолжительность охоты на гусей и уток в конкретном охотхозяйстве не может превышать 28 дней в рамках весеннего сезона. Весной в Беларуси разрешено охотиться на следующие виды: гусь белолобый, гусь-гуменник, гусь серый, казарка канадская, кряква, чернеть красноголовая, чернеть хохлатая, чирок-трескунок, чирок-свистунок.**



"…стреляешь …влении…"

# Стереотипы о весенней охоте

## ПОЧЕМУ ЧЕЛОВЕК С РУЖЬЕМ РЕШАЕТ?



**Павел Пинчук, директор Белорусского центра кольцевания птиц:**

– Весенняя охота выбивается из общей логики использования ресурсов животного мира. Так, во время нереста действует запрет на лов рыбы, в сезон размножения копытных – запрет охоты на них. А птицы – беззащитны? Из-за выстрелов, даже мимо, птицы бросают свои кладки. Речь не только об охотничьих видах. Среди «пострадавших» - десятки видов, много краснокнижных. Но охотники об этом не думают. Как не думают и о том, что если при осенней охоте изымается прирост популяции, в основном молодые птицы, то весной гибнет ядро популяции, производители. Они очень ценны в генетическом плане: эти птицы перенесли и долгий непростой перелет. Неужели ради свинцовой дроби?



**Виктор Фенчук, координатор природоохранного проекта для Беловежской пущи:**

– Весна – это пробуждение природы, время продолжения рода и воспитания потомства. Время, наполненное движением, радостью, жизнью. Красотой оперения и мелодикой звуков. Весенняя охота, это когда ты стреляешь в жизнь в самом ярком ее проявлении. Зачем?



**Наталья Карлионова, кандидат биологических наук, ведущий научный сотрудник лаборатории орнитологии ГНПО «НПЦ НАН Беларуси по биоресурсам»:**

– Птицам нужно очень много энергии, чтобы весной пролететь тысячи километров, добраться до своих мест гнездования и вырастить потомство. Места остановки во время весенней миграции очень важны, чтобы птицы могли отдохнуть и набрать энергии для того, чтобы успешно продолжить свой полет. И как раз здесь, где птицы наиболее уязвимы, они попадают под выстрел. Выходит, что человек с ружьем решает, жить серому гусю и другим видам водно-болотных птиц в Беларуси и за ее пределами или не жить. Почему он выбирает второе?



**Александр Козулин, кандидат биологических наук, зав. сектором международного сотрудничества ГНПО «НПЦ НАН Беларуси по биоресурсам»:**

– Когда на поле стреляет человек с ружьем – в опасности не только гусь, в которого целятся. В опасности – все вокруг. Выстрелы – огромное беспокойство для всех видов птиц! Важно понять, что стрелять в водно-болотных угодьях категорически нельзя. И еще важнее – понять, что стреляют у нас на самом деле много. Это просто незаметно. Да и каждую убитую птицу нельзя считать за единицу: каждый убитый самец или самка гуся – это убитый выводок. Гуси не перераспределяются на пары.



**От одной убитой утки птиц меньше не станет.**

Весной – станет! Гуси летят весной сформированными на всю жизнь парами, сезонные пары формируются у уток. Одна убитая самка утки и любой партнер из гусиной пары означают, что гнездование не состоится и птенцов осенью будет меньше. Итого: 1 точный выстрел и минус 6-12 особей осенью....



**Я целюсь в последнюю птицу в клине, она больная и слабая.**

Весной под выстрел попадают самые сильные птицы. Те, которые пережили осеннюю охоту, миграции, долгую зимовку и готовы приступить к гнездованию.



**Мне не обязательно попасть в гуся, я просто хочу пострелять.**

Выстрел – тоже большой стресс для птиц. Птицы бросают кладки, а врановые могут их разорить.

**Если запретить охоту, люди будут больше браконьерить.**

Под прикрытием «поохочусь на гуся» каждый год из наших лесов и полей исчезают бородатые неясыти, филины и другие редкие птицы. Смешаться с выстрелами во время весенней охоты куда легче и спокойнее. Это развязывает руки тем, кто не считается с законами нашей страны и с законами природы.

**В Беларуси всегда были охотники. Это наша традиция.**

На самом деле издавна птицы по весне были объектом обрядов и песен, а не охоты. Весенняя охота была открыта лишь с начала 1990-х годов. А весенняя охота на гусей стала набирать популярность лишь сейчас, с доступностью макетов птиц и манков.



**Белорусы убивают птиц, чтобы прокормить семью.**

Охота давно перестала быть способом выжить. Основные клиенты охотхозяйств и национальных парков Беларуси весной – французы и итальянцы, ведь в ЕС весенняя охота запрещена. Иностранцы платят не за охотпутевку, а за каждую добытую птицу. Поэтому ввести нормирование добытых птиц весной сложно. Но и богатые белорусы выделяются. В интернете нетрудно найти фото довольных охотников в окружении 30-40 гусей, которых они подстрелили за утро.

**Весна – время зарождения новой жизни! Отложите в сторону ружье, возьмите в руки фотоаппарат или бинокль и наблюдайте за пробуждением природы!**

# “Атлас птушак Еўропы”: дапамагчы можа кожны!

Настасся Кузьмянкова, каардынатар праекта

**Народная навука (ад. англ. *citizen science*) – менавіта так называюць аматараў прыроды, якія назіраюць за прыродай і збіраюць цікавы матэрыял для вучоных і прыродаахоўнікаў. Такія назіранні, пры выкананні простых умоў, могуць быць вельмі карыснымі для навукі. У Еўропе і ЗША армія “народных навукоўцаў” расце з кожным годам. Свая ніша для іх ёсць і ў Беларусі. Самы просты шлях далучыцца да “народнай навукі” – збіраць дадзеныя для “Атласа птушак” ці заносіць свае назіранні на сайт www.florafauna.by. У вас абавязкова атрымаецца! Далучайцеся – так цікава!**

### Што такое“Атлас”?

“Атлас”– гэта вялікі амбітны еўрапейскі праект. Кніга ўпершыню будзе ўтрымліваць інфармацыю пра распаўсюджанасць усіх відаў птушак (больш за 500!), якія адзначаны на гнездаванні ў Еўропе, з дадзенымі па іх колькасці ў параўнанні з 1997 годам, калі выйшаў першы “Атлас”. У Беларусі для першага “Атласа” было абследавана трохі больш за палову тэрыторыі, а ў Расіі нават менш, чым у нас. Зараз у працы над “Атласам” удзельнічае больш за 50 краін Еўропы.

### Хто ініцыяваў?

Праца над “Атласам” пачалася ў 2013 годзе і працягнецца да канца 2017. Праект быў распачаты Еўрапейскай радай па падліках птушак (EBCC).

### Як?

Тэрыторыя нашай краіны разбітая на больш чым 112 квадратаў 50 на 50 км. Для кожнага квадрата неабходна скласці спіс відаў птушак, што сустракаюцца тут у сезон размнажэння (а гэта 150–170 відаў!), адзначыць іх гнездавы статус і зрабіць ацэнку колькасці пар згодна з лагарыфмічнай шкалой (адзінкі, дзясяткі, сотні, тысячы і г.д.).

### “Атлас птушак Беларусі”

Інфармацыю для “Атласа” збірае АПБ з НПЦ па біярэсурсах НАН Беларусі. Акрамя “еўрапейскага” атласа, плануецца таксама сабраць дадзеныя і выдаць першы атлас птушак, якія гняздуюцца ў Беларусі. У іншых краінах Еўропы практыка стварэння нацыянальных атласаў існуе даўно і яны выдаюцца кожныя 10 гадоў. Для нашай краіны гэта будзе першы нацыянальны атлас, які стане падмуркам для наступнай працы па вывучэнні стану арнітафауны. “Атлас” дапамагае ацаніць карціну сучаснага становішча не толькі рэдкіх, але і звычайных відаў птушак. Таксама веды аб тым, як змяняецца колькасць таго ці іншага віду, дапамогуць своечасова звярнуць увагу на некаторыя віды птушак, якім патрэбна дапамога.

### Як можна паўдзельнічаць?

Свой унёсак у працу над “Атласам” можа зрабіць кожны. Асабліва цяжка арнітолагам сабраць дадзеныя па каланіяльных і гарадскіх відах птушак. Напрыклад па гэтых...



**Кольчатая туркаўка (кольчатая горлица)**

Сустракаецца ў гарадскіх парках, сярод алей. Лёгка адрозніць ад іншых нашых відаў галубоў па больш зграбнай постаці і чорным сярпе на шыі.



**Ластаўка-зямлянка (береговая ласточка)**

Гняздуецца ў норках на абрывістых і высокіх берагах вадаёмаў, а таксама ў кар’ерах, дзе здабываюць гліну і пясок. Гняздуецца калоніямі.



**Грак (грач)**

Звычайная птушка гарадоў, прыдарожных лесапалос, могілак і вёсак. Гняздуецца калоніямі ў верхавінах высокіх дрэваў.



**Еўрапейскі ўюрок (европейский вьюрок)**

Сустракаецца ў садах і парках, таксама на могілках. Птушка меншая за вераб’я, самец з ярка-жоўтым горлам і грудзямі. Самка не такая яркая і з большай колькасцю рысак. Мае характэрны спеў: вібрацыйнае «сірррліт».



**Жаўрук-смяцюх (хохлатый жаворонок)**

Птушка ахвотна займае стадыёны, пусткі і падобныя паўпустынныя месцы. Ад іншых відаў жаўрукоў адрозніваецца вялікім вострым чубам.

Інфармацыю пра колькасць гнёздаў гракоў ці ластавак-зямлянак, сустрэчы з іншымі птушкамі трэба заносіць на сайт **florafauna.by**, які з’яўляецца адным з рэсурсаў для працы над “Атласам”. Пажадана папярэдне сфатаграфаваць калонію ці птушку, пра якую ідзе гаворка. З дапамогай гэтага фіксавання можна не толькі адсочваць размеркаванне віду па краіне, але і бачыць асабістыя кропкі назіранняў на мапе. Сюды можна заносіць назіранні самых розных відаў, якіх вы сустрэнеце.

**Зробім“Атлас птушак” разам!**


**Ахова птушак Бацькаўшчыны**

АПБ з'яўляецца нацыянальным партнёрам BirdLife International, глабальнай асацыяцыі прыродаахоўных арганізацый




© АПБ, 2016 Інфармацыйны бюлетэнь ГА “Ахова птушак Бацькаўшчыны”,

**Галоўны рэдактар:** Аляксандр Вінчэўскі
**Рэдакцыйная рада:** Вікторыя Церашонак, Ганна Трафімчук, Сяргей Зуёнак, Аляксей Цішачкін, Мікалай Чэркас, Віктар Фянчук, Алег Кальчанка

**Карэктар:** Надзея Вішнеўская
**Вёрстка:** Зміцер Гупянец
№ 2 2016 год
Рэгістрацыйны №726 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь

**Наш адрас:** вул.Парніковая 11, пам. 4, Мінск, 220114, Беларусь

Тэл. (017) 369 76 13 Факс (017) 265 08 11
(029) 223 06 13 МТС, (029) 101 68 87 (velcom).
E-mail: info@ptushki.org
Сайт: www.ptushki.org
Для карэспандэнцыі: вул.Парніковая 11, пам. 4, Мінск, 220114, Беларусь

Дзейнасць ГА “Ахова птушак Бацькаўшчыны” падтрымліваецца Каралеўскім таварыствам аховы птушак (RSPB), партнёрам BirdLife International у Вялікабрытаніі.

У бюлетэні выкарыстаны фотаздымкі наступных аўтараў: Дз.Якубовіч, A.Trepte, П.Пінчук, А.Валынец, М.Сакалоў, П.Лунёў, Я.Васілеўскі, а тамсама фотаздымкі з архіваў АПБ і архіваў герояў публікацый.

Наклад паас.

Передрук дазваляецца пры ўмове спасылкі на Інфармацыйны бюлетэнь

Замова №